ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 44—45 9 лістапада 1995 г.

(2446—2447) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

**УСЁ Ж АЧУНЬВАЕМ ЯК НАЦЫЯ, БО КЛАПОЦІМСЯ ПРАБЛЕМАМІ ДУХА І БЫЦЦЯ**



## АДРАДЖЭННЕ "ФАЎСТА"

Сярод песімізму й скрухі, якія ўсё больш забіраюць нашу нацыянальна свядомую грамадскасць, дзейнасць "Беларускай капэлы" ўяўляецца нібыта знак Божы на ўратаванне. Таленавітыя прафесіяналы высокага кшталту, паяднаныя ў Капэлу, яны натхнёна шукаюць забытыя й занядбаныя крыніцы, у якіх схавана жыццядайная энергія -- у гуках музыкі й слова. Ад стварэння трымаю на воку дзейнасць "Беларускай капэлы" і штораз захапляюся дзівоснымі імпрэзамі, якія няўхільна набіраюць паўнаты і бляску.

23 кастрычніка ў Доме літаратара адбылася чарговая імпрэза, зладжаная "Беларускай капэлай" разам з Нямецкім культурным цэнтрам імя Гётэ. Гэта быў "Фаўст", музычна-літаратурная кампазіцыя паводле оперы Антонія Генрыка Радзівіла на лібрэта Ёгана Вольфганга Гётэ. Гэткім чынам было ўшанавана 220-годдзе з дня нараджэння кампазітара і 175-годдзе прэм'еры оперы. Калі імя аўтара лібрэта не патрабуе каментарыяў, то асоба кампазітара для большасці нашых сучаснікаў уяўляецца загадкаю. Радзівіл -- гэтае імя ў беларусаў выклікае пэўную асацыяцыю: Юры, Януш, Барбара, "Сіротка", "Пане Рыбанька", "Пане Каханку"... Але Антоні Генрык? Лідэры аб'яднання "Беларуская капэла", сладарства Віктар Скорабагатаў і Наталля Собалева, міла папрыпіся пра досвед аматараў мастацтва, рэгулярна змяшчаючы ў перыёдыках найцікавейшыя артыкулы пра А.-Г.Радзівіла і яго атачэнне, пра культурную атмасферу, у якой стваралася опера, і шмат пра што іншае. Скарыстаю гэтую інфармацыю, упэўнены, што чытач не знудзіцца, але з цікавасцю прачытае звесткі аб выбітных асобах золку эпохі рамантыкаў.

**НА ЗДЫМКУ: дуэт Грэтхен і Фаўста ў выкананні А.БУНДЗЕЛЕВАЙ і Г.ПАЛІШЧУКА. Партыю віяланчэлі выконвае А.АЛОЎНІКАЎ.**

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## КАМУНІСТЫ МОГУЦЬ УЗЯЦЬ УЛАДУ, АЛЕ НЕ ХОЧУЦЬ... ЧАМУ?

**НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" АДКАЗВАЕ БЫЛЫ ПЕРШЫ САКРАТАР САВЕЦКАГА РАЙКОМА ПАРТЫІ ГОРАДА МІНСКА, А СЁННЯ ЎДАЧЛІВЫ БІЗНЕСМЕН Анатоль ЛАШКЕВІЧ.**

-- *Анатоль Уладзіміравіч, як вы ацэньваеце шансы камуністаў на маючых адбыцца выбарах?*

-- Вельмі высока.

-- *Якія ў вас для гэтага падставы?*

-- Зыходжу з вынікаў папярэдніх выбараў.

-- *Цікавасць да кампартыі адраджаецца. Як вы тлумачыце гэту з'яву?*

-- Усе ўжо здаволіліся абяцаннямі, што народ будзе жыць лепей. На самай справе з кожным днём мы жывём усё горш і горш. Тое, што было завявана і збудавана, -- страчана. Камуністы, з улікам зробленых памылак і пралікаў, ставяць перад сабой задачу вярнуць страчанае. Мы гатовы ўзяць на сябе адказнасць за лёс народа і змяніць яго жыццё да лепшага.

-- *Вы лічыце, што ўсё, пра што вы гаворыце, рэальна?*

-- Абсалютна рэальна, але для гэтага надзвычай важна аднавіць адзіную саюзную дзяржаву. Мяркую, калі мы застанемся адны, то прыкладна праз некалькі гадоў у Беларусі застанецца палова таго насельніцтва, якое ёсць цяпер. Больш таго, жыць увесь час на падачкі не толькі непрыстойна, але і не перспектыўна, таму што яны могуць у нейкі момант проста спыніцца, і давядзецца плаціць даўгі.

-- *З гэтага можна зрабіць вывад, што вы станоўча ставіцеся да саюза з Расіяй?*

-- Да саюзаў, не падмацаваных палітычнымі і юрыдычнымі справамі, я стаўлюся скептычна. Саюз можна лічыць саюзам толькі тады, калі ў ім выконваюцца рашэнні, якія падпісваюцца кіраўнікамі дзяржаў. А каб рашэнні выконваліся, павінна быць сістэма адказнасці і патрабавальнасці. У Савецкім Саюзе было сапраўднае кіраўніцтва, і калі рэспублікамі не выконваліся нейкія пагадненні, няцяжка было знайсці адказнага і вінаватага. А зараз усё несур'ёзна. Кіраўніцтва СНД збярэцца, пап'юць гарбаты ці яшчэ чаго, нешта нападпісваюць, але ніхто падпісанае не выконвае. Дык што гэта за саюз? Ён і ёсць толькі на паперы. Асабіста я за тое, каб быў саюз палітычны, не толькі абумоўлены нейкімі пагадненнямі, а саюз з адзіным кіруючым органам.

-- *Але для гэтага патрэбна не толькі ваша жаданне, але і воля іншых былых рэспублік.*

-- Я не прарок, я магу толькі разлічваць, што здаровы сэнс пераможа. Быццё вызначае свядомасць.

-- *Анатоль Уладзіміравіч, чым вам дарагія камуністычныя ідэі?*

-- А чаму, напрыклад, людзі вераць у Бога? Я лічу, што гэта ідэя спрыяе найбольш справядліваму развіццю і фарміраванню чалавека.

-- *І вас не бянтэжыць няўдалы папярэдні вопыт увасаблення гэтай ідэі?*

-- З кожнага вопыту трэба рабіць правільныя вывады. Калі нехта не змог увасобіць ідэю, гэта не азначае, што ідэя заганная. Проста не знайшліся людзі, здольныя яе рэалізаваць. А тыя, хто яе дыскрэдытаваў, у сваіх няўдачах абвінавацілі саму ідэю.

-- *Вы з'яўляецеся дырэктарам гандлёва-прамысловага дома "Белмена". Гаворыць, што камерцыйнай дзейнасцю займаецеся для таго, каб дапамагчы кампартыі. Ці не маглі б вы гэты факт пракаменціраваць?*

-- Пасля жніўня 1991 года я апынуўся па-за справамі. У мяне вялікая сям'я, трое дзяцей, якіх трэба карміць, апранаць. Хадзіць, уніжацца, прасіць работу ў дзяржаўных структурах палічыў для сябе немагчымым і знайшоў працу сам. Я не паранойваю сябе з такімі вялікімі тэарэтыкамі навуковага камунізму, як Энгельс, але ён таксама быў прадпрымальнікам, што не перашкаджала яму рэалізоўваць свае ідэі.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**ПОЛЫМ... СВЕЧАК ГАРЫЦЬ НАША ПАМЯЦЬ**



**Няма нічога больш трывалага за традыцыі, якія бяруць пачатак, відаць, з той пары, калі чалавек усвядоміў сябе разумнай істотай на зямлі -- Чалавекам. Яны перадаюцца з пакалення ў пакаленне, ад прадзедаў да праўнукаў, яны прыйшлі да нас з глыбокай мінуўшчыны і пойдуць у нязведаную далячынь будучыні. Нішто не вытравіць іх з людской памяці.**

**НА ЗДЫМКУ: 2 лістапада 1995 года. "Дзяды".**

( Заканчэнне фотарэпартажу на 4-й стар.).

 ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПРЭЗІДЭНТ У МАГІЛЁВЕ*

## МОСТ ЗЛУЧАЕ БЕРАГІ

**Рабочая паездка Прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі ў Магілёў пачалася 1 лістапада сустрэчай з будаўнікамі, грамадскасцю, кіраўнікамі вобласці і горада з нагоды адкрыцця руху па толькі што ўзведзеным мосце цераз Днепр. Гэта трэцяя па ліку пераправа вырашае шматлікія праблемы індустрыяльнага цэнтра. Увод яе ў дзеянне яшчэ раз пацвярджае імкненне Прэзідэнта выконваць свае перадвыбарчыя абавязацельствы, паколькі ў свой час ён абяцаў усяляк садзейнічаць узвядзенню важнага гаспадарча-транспартнага аб'екта горада на Дняпры.**

**Сустрэты хлебам-соллю, Аляксандр Лукашэнка разрэзаў сімвалічную стужку, якая адкрывае рух па новым мосце цераз Днепр, і выступіў з прамовай на праведзеным тут жа мітынгу. На думку Прэзідэнта, гэта пераправа цераз паўнаводную раку сімвалізуе надзею на выхад эканомікі краіны з зацяжнога крызісу. "Думаю, -- адзначыў ён, -- нікога не трэба пераконваць, што новы маставы пераход у Магілёве -- адно з сучасных інжынерных збудаванняў. Мост адзіным пралётам перашагнуў цераз Днепр, увабраў у сябе тры пуцеправоды вялікай працягласці. Магілёўчане атрымалі ў сваё распараджэнне тое, што сапраўды трэба".**

**Паводле слоў Прэзідэнта, Рэспубліка Беларусь як бы сама выконвае "маставую" функцыю. Яна настойліва наладжвае інтэграцыйныя працэсы, парушаныя ў выніку разрыву гаспадарчых сувязей. Паводле экспертных ацэнак, спад вытворчасці ў краінах СНД на 60 працэнтаў абумоўлены гэтай прычынай. Калі ж улічыць страты ў галіне навукі, тэхнікі, культуры, чалавечых адносінаў, канфлікты на міжнацыянальнай аснове, то стане відавочнай уся глыбіня гістарычнай трагедыі народаў былога СССР, разыгранай сучаснымі феадаламі і іх нацыяналістычнымі элітамі.**

**Курс на ўсебаковую інтэграцыю з краінамі Усходу і Захаду для нас з'яўляецца нязменным. "Аб гэтым, -- падкрэсліў прэзідэнт, -- я на ўвесь голас заявіў з трыбуны ААН у час нядаўняга знаходжання ў Нью-Йорку".**

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## ПРЭЗІДЭНЦКАЕ ПРАЎЛЕННЕ МАГЧЫМАЕ

**На прэс-канферэнцыі ў Магілёве А. Лукашэнка падрабязна расказаў аб перажываемых рэспублікай цяжкасцях і адказаў на шматлікія пытанні прысутных. Ён, у прыватнасці, падкрэсліў, што ў гэтай сітуацыі менш за ўсё трэба займацца пошукам ворагаў, неабходна з поўнай аддачай сіл працаваць на карысць краіны і беларускага народа. З цягам часу гісторыя расставіць усё па сваіх месцах і з усёй пэўнасцю назаве прычыны і вынікі перажываемай драмы. Са свайго боку, Прэзідэнт гатоў у любы час прыняць разумныя прапановы, ад каго б яны ні зыходзілі, і правесці іх у жыццё.**

**Гаворачы аб узаемаадносінах органаў выканаўчай і прадстаўнічай улады, кіраўнік дзяржавы не выключыў магчымасці ўвядзення ў рэспубліцы прэзідэнцкай формы кіравання. Гэта будзе залежаць ад акалічнасцей, якія паграджаюць нашай дзяржаўнасці. Разам з тым Прэзідэнт перакананы, што высокапрафесіянальны парламент у дэмакратычнай краіне неабходны. Аднак Вярхоўны Савет павінен быць легітымным.**

*БЕЛАРУСЬ -- ЕС*

## ПУСЦІЦЕ Ў ЕЎРОПУ

**Неабходнасць сустрэчы з прадстаўнікамі Еўрапейскай камісіі наспела ўжо даўно. У рэспубліцы ёсць жаданне працаваць больш цесна з Еўропай і, у прыватнасці, з такой арганізацыяй, як Еўрасаюз. Аб гэтым заявіў прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір на праведзенай 1 лістапада сустрэчы з дэлегацыяй гэтай арганізацыі на чале з камісарам Еўракамісіі Хансам Ван дэн Брукам.**

**Ацэньваючы магчымасці па далейшаму эканамічнаму супрацоўніцтву з еўрапейскім супольніцтвам, М. Чыгір, у прыватнасці, адзначыў, што ў ходзе сустрэч быў дасягнуты шэраг дагаворанасцей у гэтым пытанні. Паводле яго слоў, ужо ў бліжэйшы час у Еўракамісіі будзе абмеркавана пытанне аб расшырэнні паставак хлорыстага калію, штапельнага валакна і бавоўнянай прадукцыі беларускай вытворчасці на еўрапейскі рынак. Што датычыць палітычных пытанняў, якія, на думку членаў дэлегацыі перашкаджаюць інтэграцыі рэспублікі ў Еўропу, то прэм'ер лічыць, што дастаткова павярхоўнае веданне прадстаўнікоў ЕС сутнасці таго, што адбываецца, не можа быць вызначальным ва ўзаемаадносінах краіны з гэтай арганізацыяй. Як стала вядома, асноўнымі праблемамі, якія крыху адкладваюць тэрміны прыняцця Беларусі ў агульнаеўрапейскую сям'ю, сталі забастоўка метрапалітэнаўцаў і сітуацыя, звязаная з выбарамі новага парламента краіны. Кіраўнік Кабінета Міністраў выказаў нязгоду з самімі падыходамі да гэтых пытанняў.**

*"Груба парушаючы канстытуцыйныя правы грамадзян, захопліваючы паўнамоцтвы іншых самастойных галін улады, Прэзідэнт паслядоўна знішчае любыя праявы іншадумства і крытыкі ў свой адрас. Аб гэтым сведчаць і адмова прадстаўніка справаздачу па выкананню бюджэту, прамыя пагрозы і ціск на дэпутатаў Вярхоўнага Савета, стварэнне ўмоў, каб чарговая сесія Вярхоўнага Савета не адбылася, зняважа да Канстытуцыйнага суда і яго рашэнняў, прамое ўмяшанне ў дзейнасць гэтага незалежнага органа. Абуральным і беспрэцэдэнтным для дэмакратычнай прававаі дзяржавы, якой мы сябе абвясцілі, з'яўляецца факт забароны прамога тэлеэфіру для выступлення Старшыні Вярхоўнага Савета, сістэматычнае грубае ўмяшанне ў сферу дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі, пазбаўленне грамадзян канстытуцыйнага права на атрыманне поўнай і аб'ектыўнай інфармацыі.*

*Зыходзячы з інтарэсаў агульнай справы, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь яшчэ раз заклікае Прэзідэнта і выканаўчую ўладу рэспублікі ісці па шляху паразумення і разумнага кампрамісу на падставе прызнання законаў і Канстытуцыі дзяржавы".*

*(Са Звароту Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 25 кастрычніка 1995 года).*

*ВЕРДЫКТ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА*

## ЗАКОНЫ — НАРМАЛЬНЫЯ

**Прынятыя парламентам змяненні ў законы аб выбарах у Вярхоўны Савет і ў мясцовыя Саветы дэпутатаў не супярэчаць Канстытуцыі. Да такога рашэння прыйшоў Канстытуцыйны суд, які разгледзеў 30 кастрычніка справу "Аб адпаведнасці Канстытуцыі законаў Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" і "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў". Сутнасць даных змяненняў -- у змяненні нормы для прызнання таго, што выбары адбыліся, з 50 да 25 працэнтаў ад агульнай колькасці выбаршчыкаў, унесеных у спісы.**

**Даная справа была ўзбуджана па ініцыятыве Старшыні Вярхоўнага Савета Мечыслава Грыба. Падставай для звароту спікера ў суд паслужылі факты аспрэчвання некаторымі службовымі асобамі, у тым ліку і Прэзідэнтам, правамоцнасці прынятых парламентам змяненняў.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

## НА ПАСОЛЬСТВЫ ГРОШАЙ НЯМА

**"Адкрыццё новых дыпламатычных прадстаўніцтваў Беларусі за мяжой у будучым годзе пакуль не плануецца", -- заявіў міністр замежных спраў Уладзімір Сянько. Адкрыццё пасольства ці консульства, па словах міністра, кладзецца цяжкім грузам на рэспубліканскі бюджэт. Кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства лічыць, што павелічэнне колькасці дыпламатычных прадстаўніцтваў Беларусі не павінна быць самамэтай. "На жаль, -- адзначыў ён, -- мы не можам ахапіць не толькі ўвесь свет, але нават мець пасольствы ў тых дзяржавах, у супрацоўніцтве з якімі рэспубліка найбольш зацікаўлена".**

*ПАМЯЦІ АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ*



**Астанкі 46 абаронцаў Віцебска, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, выявілі сапёры на месцы былога нямецкага канцлагера. На воінскіх могілках горада адбылося ўрачыстае перапахаванне. На мітынг прыйшлі ўсе, каму дарагая памяць аб абаронцах Айчыны.**

**НА ЗДЫМКУ: цырымонія перапахавання.**

*ЧАЛАВЕК ДОБРАГА СЭРЦА*



**Каля дзесяці разоў пабываў на Гомельшчыне немец Гюнтэр Бохн (на здымку) -- у Калінкавіцкім, Рагачоўскім, Добрушскім раёнах. Тут ён наведвае беларускіх дзяцей, якіх называе сваімі. Пазнаёміўся з імі Гюнтэр у час іх паездкі на аздараўленне ў Германію. Гюнтэр, ужо нямалады чалавек -- яму пад 70, -- узяў тады да сябе ў дом дзяцей з пацярпеўшых раёнаў. Потым былі дзеці з іншых груп. Цяпер Гюнтэр Бохн прыязджае праведаць іх, а летам зноў чакае ў госці ў свой невялікі гарадок Хемсбюнд пад Гамбургам.**

*НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ*

## ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІ ДЗІЦЯЧЫ САД

**26 кастрычніка ў Беластоку адкрыты першы ў Польшчы польска-беларускі дзіцячы сад, у якім выхаванцы дзвюх груп будуць вывучаць беларускую мову.**

**Беларускі бок перадаў установе каляровы тэлевізар і відэамагнітафон, набор відэакасет з запісамі беларускіх песень і казак, лялечны тэатр-батлейку, вялікую колькасць кніжак для маленькіх.**

**Дзіцячы сад у Беластоку будзе падтрымліваць пастаянныя кантакты з адным з садоў Мінска, адкуль і будзе атрымліваць неабходную арганізатарскую і метадычную дапамогу.**

**На адкрыцці дзіцячай установы прысутнічалі намеснік міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Анатоль Гарнак, генеральны консул Беларусі ў Беластоку Міхаіл Слямнёў, прадстаўнікі мясцовых ваяводскіх і гарадскіх улад.**

**Будынак дзіцячага сада асвячоны праваслаўным свяшчэннікам.**

*ПЛОШЧА АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ*



**У гонар 50-годдзя з дня стварэння Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якое нядаўна адзначылі ў свеце, плошча ля канцэртнай залы "Мінск" у беларускай сталіцы названа плошчай Аб'яднаных Нацый.**

**НА ЗДЫМКУ: такі выгляд мае плошча Аб'яднаных Нацый у Мінску.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

КАПЫЛЬСКІ райвыканкам пад націскам грамадскасці Блеўчыцкага і Семежаўскага сельсаветаў, якая за адну ноч сабрала аж тысячу подпісаў пад зваротам у Кабінет Міністраў Беларусі, адмовіў у дзяржаўнай рэгістрацыі спецыяльнага дома-інтэрната ў вёсцы Філіпавічы. У тым інтэрнаце павінны былі дажываць свой век састарэлыя і інваліды, вызваленыя з месцаў пазбаўлення волі, асабліва небяспечныя рэцыдывісты.

СПЫНЕНА следства па факту расправы з галадаючымі дэпутатамі ад апазіцыі ў ноч на 12 красавіка 1995 года ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета Беларусі. Справа зайшла ў тупік у сувязі "з неўстанаўленнем асоб, якія падлягаюць прыцягненню да адказнасці ў якасці абвінавачваемых". Відэаплёнка, на якой было б відаць усё і якая паказала б тых, хто збіваў дэпутатаў, "знікла". Нягледзячы на абяцанні самога Прэзідэнта дзяржавы, яна так і не была паказана па нацыянальным тэлебачанні.

ПАМЁР Лявон Случанін (Лявонцій Раманавіч Шпакоўскі), адзін са старэйшых беларускіх паэтаў, двойчы вязень сталінскага ГУЛАГа. Выканкам Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады выказаў шкадаванне і глыбокае спачуванне родным нябожчыка, які да апошніх дзён захаваў шчырае сэрца паэта і годную грамадзянскую пазіцыю.

У ГОМЕЛІ з'явілася на свет першае дзіця з прабіркі. Гэта хлопчык, якога так чакалі ў сям'і. Эмбрыён нованароджанага гамяльчаніна гадавалі ў прабірцы ўрачы медыка-генетычнага цэнтра "Шлюб і сям'я". Потым ён быў перасаджаны маці. Хлопчык нарадзіўся здаровы, яго вага 3,5 кілаграма.

# КАМУНІСТЫ МОГУЦЬ УЗЯЦЬ УЛАДУ, АЛЕ НЕ ХОЧУЦЬ... ЧАМУ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Я ведаю, што не ўсе ў нашай партыі аднолькава добра да мяне ставяцца, ёсць і такія, хто лічыць мяне капіталістам. Што зробіш, усім жа не раскажаш, чым і дзеля чаго займаешся.

*-- А як жа быць з прыватнай уласнасцю?*

-- Мы прызнаем любыя формы ўласнасці, акрамя прыватнай уласнасці на зямлю, таму што яна дае магчымасць узбагаціцца пэўнай групе людзей за кошт усяго грамадства. Я глыбока перакананы, што сацыялізм не павінен несці людзям збядненне.

*-- А як вы ставіцеся да заявы Прэзідэнта аб тым, што камуністычныя ідэі блізкія фашысцкім?*

-- Спроба аб'яднаць камуністаў і фашыстаў у адну каманду, на мой погляд, абсурдная. У нас зусім розныя праграмныя мэты і задачы, і калі Прэзідэнт не знайшоў часу пазнаёміцца з праграмай нашай партыі, то не варта было б нас і абражаць. Тым больш, што заявы такога роду ён рабіў неаднойчы.

*-- Вы высока ацэньваеце шансы камуністаў на маючых адбыцца выбарах. У такім разе існуе вялікая верагоднасць, што камуністы ў Беларусі прыйдуць да ўлады?*

-- Так, вельмі высокая. Толькі ўся справа ў тым, ці патрэбна сёння прыходзіць да ўлады. Трэба ўлічваць расстаноўку сіл у Расіі: калі мы прыйдзем да ўлады, то гэтай улады хопіць толькі на тыдзень. Нам перакрыюць нафту, газ, і на гэтым усё хутка скончыцца.

*-- Тады як выглядае ваша праграма-мінімум?*

-- Мець у Вярхоўным Савеце фракцыю, якая б напрацоўвала дакументы ў інтарэсах развіцця эканомікі рэспублікі, і рабіць спробу блакіраваць пытанні, якія шкодзяць народу.

*-- І ўсё ж, Анатоль Уладзіміравіч, чаму вы лічыце, што ў Беларусі камуністам так проста будзе прыйсці да ўлады?*

-- Перш за ўсё таму, што тут не было скандальных працэсаў, звязаных з кадравымі правамі, як гэта было, напрыклад, у сярэднеазіяцкіх рэспубліках. Эканоміка развівалася дынамічна, як, між іншым, і сельская гаспадарка. Да таго ж я не бачу будучыні цяперашняй улады. Яна становіцца аўтарытарнай і імкнецца падмяць пад сябе ўсе іншыя галіны ўлады.

*-- Ці ёсць яшчэ сярод беларускіх бізнесменаў людзі, якія падтрымліваюць вашу партыю?*

-- Ёсць, і нямала. Некаторыя нават падтрымліваюць з боязі: раптам мы прыйдзем да ўлады. Ёсць такая катэгорыя людзей, што на ўсялякі выпадак падтрымліваюць і левых, і правых, і тых, хто пасярэдзіне. Хаця, калі ў свой час народ дружна пачаў выкідваць партыйныя білеты, яны заявілі, што займаюць цэнтрысцкую пазіцыю.

*-- А ў вас захаваўся партыйны білет?*

-- Захаваўся. І не адзін, а два -- стары і новы.

**Гутарыла Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# НА БЕЛАРУСІ ЗНОЎ АДЗНАЧАЮЦЬ ДЗЯРЖАЎНАЕ СВЯТА — ЧАРГОВУЮ ГАДАВІНУ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

## ШТО ГЭТА БЫЛО?

**Са звароту Віцебскага Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта да рабочых, салдатаў і грамадзян г. Віцебска аб узмацненні барацьбы з правакацыйнымі чуткамі і падтрымцы Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта**

*Не раней 25 кастрычніка 1917 года*

..Звесткам, што падаюцца за апошні час жоўтай прэсай, просім не надаваць значэння, таму што -- цалкам паклёпніцкія. У Петраградзе ўсё спакойна. Жыццё працягваецца звычайным парадкам. Паведамленне аб заняцці "войскамі Керанскага" Петраграда з'яўляецца чарговай маной. Звесткам аб тым, што "войскамі Керанскага" заняты г. Гатчына, просім да атрымання камітэтам дакладных даных таксама не верыць. Па матэрыялах, што маюцца ў распараджэнні Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, "войскі Керанскага" (тыя-сія казачыя часці арміі) акружаны нарвскім, петраградскім гарнізонамі і часцямі Балтыйскага флоту. Вядуцца перагаворы, і сутыкненняў ніякіх да гэтага часу не было.

**Ваенна-рэвалюцыйны камітэт г. Віцебска**

**З данясення часова выконваючага справы галоўнакамандуючага Заходнім фронтам генерала М. Малявіна ў стаўку генералу М.М. Духоніну**

*28 кастрычніка 1917 года*

...У арміях... поўны развал. Уся ўлада паступова пераходзіць у рукі бальшавікоў, камандны састаў не ведае, чые ж распараджэнні выконваць. Фронт на цяперашні момант зусім небаяздольны, распараджэнні аб перамяшчэннях войск, што зыходзяць ад майго імя, вядома, або затрымліваюцца, або не выконваюцца, штаб фронту працуе пад кантролем рэвалюцыйнага камітэта, усё непажаданае гэтаму камітэту не прапускаецца...

**Пастанова III з'езда Саветаў сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў аб краявым кіраванні Беларусі**

*20 лістапада 1917 года*

III сялянскі з'езд Мінскай і Віленскай губерняў, абмеркаваўшы пытанне аб краявым кіраванні Беларускага краю і аб скліканні Беларускай радай беларускага з'езда, не прыняўшы да ўвагі жаданне беларускага народа мець асобнае кіраванне, лічыць, што Беларусь ёсць непадзельнае цэлае вялікай рэвалюцыйнай Расіі, а таму да з'езда беларусаў, склікаемых Вялікай беларускай радай, сялянскі з'езд ставіцца адмоўна.

**Тэлеграма Галоўкаверха М.В. Крыленкі вайсковым ваенна-рэвалюцыйным камітэтам аб ліквідацыі Стаўкі**

*20 лістапада 1917 года*

Стаўка акружана з усіх бакоў рэвалюцыйнымі войскамі, што прыйшлі з Петраграда, Кранштата і фронту.

У ноч на 19-е, дзякуючы энергічным дзеяннем салдацкай секцыі і левага кры Магілёўскага Савета, быў дзелены Ваенна-рэвалюцыйны камітэт. Пры падтрымцы георгіеўскага батальёна, што пагражаў ударыць у тыл ударнікам, якія спрабавалі абараніць Стаўку, быў зробл пераварот, прычым чы Стаўкі арыштаваны ўласнымі войскамі.

Слабы колькасна георгіеўскі батальён вымушаны быў згадзіцца на выхад ударнікаў са зброяй на поўдзень. Неадкладна кінуты эшалоны рэвалюцыйных войск з поўдня на поўнач да Магілёва.

Настрой войск выдатны, атрады і палкі, згрупаваныя для заняцця Магілёва, наперабой ірвуцца наперад, каб увайсці першымі ў разбуранае гняздо контррэвалюцыі...

**Галоўкаверх Крыленка.**

**Рэзалюцыя сходу сялян в. Клінска Дудзіцкай воласці Рэчыцкага павета Мінскай губерні аб падтрымцы Савецкай улады**

*20 снежня 1917 года*

Мы, сяляне Мінскай губерні Рэчыцкага павета Дудзіцкай воласці вёскі Клінска, на агульным сходзе, што адбыўся 20 снежня 1917 года ў колькасці 103 чалавекі, заслухаўшы даклад таварыша Галая, дэлегаванага ад сялянскай секцыі 4-й Фінляндскай стралковай дывізіі, аб бягучым моманце і дэкрэтах аб зямлі ад 26 кастрычніка г.г.,

1) вітаем новую рэвалюцыйную ўладу Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, якая пасля доўгай барацьбы з контррэвалюцыйнымі капіталістамі вырашыла пытанне аб зямлі і прапанавала справядлівы доўгачаканы народам мір;

2) заўсёды гатовы абараняць Савецкую ўладу, верачы, што ўзняты высока сцяг сацыялізму не будзе апушчаны;

3) ніякага аб'яднання з буржуазіяй і тымі згоднікамі-сацыялістамі, якія імкнуцца да такога аб'яднання;

4) патрабуем склікання Устаноўчага сходу ў бліжэйшы тэрмін.

**З прамовы У.І. Леніна на экстранным пасяджэнні Петраградскага Савета**

*26 кастрычніка 1917 года*

"Таварышы, рабочая і сялянская рэвалюцыя, аб неабходнасці якой увесь час гаварылі бальшавікі, здзейснілася.

Якое значэнне мае гэтая рабочая і сялянская рэвалюцыя? Перш за ўсё значэнне гэтага перавароту заключаецца ў тым, што ў нас будзе Савецкі ўрад, наш уласны орган улады, без якога б там ні было ўдзелу буржуазіі. Прыгнечаныя масы самі створаць уладу. У корані будзе разбіты стары дзяржаўны апарат і будзе створаны новы апарат кіравання ў асобе савецкіх арганізацый.

З гэтага часу надыходзіць новая паласа ў гісторыі Расіі, і дадзеная трэцяя руская рэвалюцыя павінна ў сваім канчатковым выніку прывесці да перамогі сацыялізму...".

**З перадавога артыкула газеты "Известия" "Вар'яцкая авантура"**

*25 кастрычніка 1917 года*

"Бальшавіцкае паўстанне, супраць якога мы ўвесь час перасцерагалі, як супраць жудаснага для краіны выпрабавання, арганізуецца і пачынаецца... Бальшавікі, што абапіраюцца на шырока разлітую незадаволенасць і на не менш шырокую несвядомасць салдацкіх і рабочых мас, не могуць даць таго, што абяцаюць: хлеба, міру, зямлі...

Але самае жахлівае -- гэта тое, што бальшавіцкае паўстанне пры ўсякай удачы павяло б да цэлага шэрагу грамадзянскіх войн".

**З адкрытага пісьма Г.В.Пляханава да петраградскіх рабочых**

*28 кастрычніка 1917 года*

"Не выклікае сумнення, што многія з вас рады тым падзеям, дзякуючы якім звергнуты кааліцыйны ўрад А.Ф.Керанскага і палітычная ўлада перайшла ў рукі Петраградскага Савета рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў.

Скажу вам прама: мяне гэтыя падзеі засмучаюць.

Не таму засмучаюць, што я б не хацеў перамогі рабочага класа, а наадварот, таму, што заклікаю яго ўсімі сіламі сваёй душы...

Іх вынікі ўжо вельмі сумныя. Яны будуць яшчэ непараўнальна больш сумнымі, калі свядомыя элементы рабочага класа не выкажуцца цвёрда і рашуча супраць палітыкі захопу ўлады адным класам ці, яшчэ горш, -- адной партыяй.

Улада павінна абапірацца на кааліцыю ўсіх жывых сіл краіны, гэта значыць на ўсе тыя класы і слаі, якія не зацікаўлены ў аднаўленні старога парадку.

Я даўно ўжо кажу гэта. І лічу сваім абавязкам паўтарыць гэта цяпер, калі палітыка рабочага класа рызыкуе прыняць зусім іншы накірунак.

Свядомыя элементы нашага пралетарыяту павінны перасцерагчы яго ад найвялікшага няшчасця, якое толькі можа з ім здарыцца".

**З артыкула М.Бярдзяева "Хто вінаваты!'**

*лістапад 1917 года*

"Можна лічыць ужо высветленым, што калі руская рэвалюцыя і была дабром. паколькі яна ў першыя дні вь іла Расію ад кашмару раз чанай самадзяржаўнай улады, то ўсё далейшае "развіццё" і "паглыбленне" рэвалюцыі пайшло па памылковаму шляху і не прынесла ніякага добрага плёну Расіі. Былі зроблены ракавыя памылкі, вынікі якіх многія з нас прадбачылі і прадказвалі. Паўтарыўся ў большых маштабах 1905 год, і можна чакаць рэакцыі вялікага маштабу...

Ніколі рэвалюцыі не бывалі занадта добрымі, заўсёды было ў іх адпадзенне ад розуму, заўсёды звязаны яны з накапленнем зла і са старымі грахамі, заўсёды адмаўленне ў іх мацнейшае за стварэнне. Прычыны ўсіх бедстваў і ўсіх грахоў рускай рэвалюцыі трэба шукаць глыбей, чым іх звычайна шукаюць...

Прычыны гэтыя перш за ўсё ў няправільным напрамку духу, у няправільных ідэях, якімі на працягу многіх дзесяцігоддзяў жыла руская рэвалюцыйная інтэлігенцыя і якімі яна атруціла народныя масы. Руская рэвалюцыя аказалася вопытам паслядоўнага прымянення да жыцця рускага нігілізму, атэізму і матэрыялізму, вялікім эксперыментам, заснаваным на адмаўленні ўсіх абсалютных духоўных пачаткаў у асабістым і грамадскім жыцці..."

**З кнігі С.Мельгунова "Кастрычніцкія дні"** *(1924 год)*

"Чаму Урадам была абрана "бязглуздая, амаль безнадзейная" пазіцыя адседжвання ў Зімнім палацы?

Для фактычнай абароны Зімняга палаца амаль нічога не было падрыхтавана -- ні снарадаў, ні прадуктаў харчавання: выкліканых днём юнкераў не маглі нават накарміць абедам. Адбылося гэта натуральна, само сабой: у Зімнім засядаў Урад, у Зімнім і застаўся ў чаканні прыбыцця войск з фронту... Сімвалам арганізацыі Зімняга палаца маглі служыць тыя выпадкова складзеныя ля параднага ўваходу дровы, з якіх юнкерамі на скорую руку ўзведзены былі барыкады. Маленькая дэталь: забыліся не толькі паставіць ахову, але нават зачыніць дзверы ля выхаду з Палаца да Зімняй Канаўкі..."

**З лекцыі Г.Зіноўева, прачытанай на пасяджэнні Петрасавета**

*24 лістапада 1917 года*

"Не ўтаю, тэхнічна наша паўстанне было дрэнна абстаўлена. Былі моманты, калі ў нас не было ні афіцэраў, ні бензіну, ні коней. Але пакуль у Ваенна-Рэвалюцыйным Камітэце абмяркоўвалі ў трывозе, дзе гэта ўзяць, самі рабочыя і салдаты ўсё дасталі. Перамагла сіла народа, і гісторыя гэта ацэніць... Узяцце Зімняга палаца каштавала ўсяго толькі шасці ахвяр з нашага боку".

**З кнігі Л.Троцкага "Урокі Кастрычніка"** *(1924 год)*

"...Цяпер, праз некалькі гадоў пасля Кастрычніка, займацца цэнкай розных пунктаў гледжання на рэвалюцыю ўвогуле, рускую ў прыватнасці, і абыходзіць пры гэтым вопыт 1917 года значыла б займацца бясплённай схаластыкай, але ніяк не марксісцкім аналізам палітыкі. Гэта ўсё роўна, як калі б мы пачалі практыкавацца ў спрэчках аб перавагах розных сістэм плавання, але ўпарта адмаўляліся б павярнуць вочы да ракі, дзе гэтыя самыя сістэмы прымяняюцца людзьмі, якія купаюцца. Не існуе лепшай праверкі пунктаў гледжання на рэвалюцыю, як прымяненне іх у час самой рэвалюцыі, -- зусім гэтак жа, як сістэма плавання лепш за ўсё правяраецца тады, калі плывец скача ў ваду".

**З паказанняў А. Вільямса камісіі Авермена Сената ЗША**

*22 лютага 1919 года*

"Я спытаў у аднаго рускага, як ён разумее слова "бальшавізм", і ён адказаў: "Гэта найкарацейшы шлях да сацыялізму"...

Знайшлася група людзей, якая, відаць, разумела, што адбываецца ў Расіі, людзей, якія мелі галаву на плячах і разумелі, што магутнаму, стыхійнаму, шырокаму, радыкальнаму руху павінна адпавядаць такая ж шырокая і радыкальная праграма; людзей, якія карысталіся давер'ем мас і таму ведалі, як авалодаць гэтымі стыхійнымі сіламі і як накіроўваць іх на стваральную мэту; людзей, якія разумелі народ і за якімі народ быў гатовы ісці.

У даным выпадку я маю на ўвазе не Саветы, а партыю бальшавікоў. Зрэшты, мала сказаць, што яны разумелі народ ці карысталіся давер'ем народа: яны самі ўяўлялі сабой часцінку народа...

Бальшавікі гаварылі мовай народа, думалі, як народ, і ўмелі выказваць народныя ідэі. Гэтыя людзі былі апантаны найвялікшай верай у вялікія прыродныя імкненні і рухі народа...".

**Публікацыю падрыхтаваў Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 42-43.**

# ПОЛЫМЕМ СВЕЧАК ГАРЫЦЬ НАША ПАМЯЦЬ










(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Так, як "Дзяды" -- спрадвечны Дзень памяці продкаў. Семдзесят гадоў бальшавікі не прызнавалі гэтае свята, выбівалі яго з галоў людзей, распрацоўвалі сцэнарыі новых, "савецкіх традыцый", але "Дзяды" ператрывалі ўсё. Многія "савецкія традыцыі", асвячоныя вышэйшымі камуністычнымі інстанцыямі, ужо сёння зніклі, пра іх забыліся. А "Дзяды" адрадзіліся. Сёлета зноў 2-га лістапада паўсюль у Беларусі, ад вясковых ціхіх могілак да Курапат, дзе спачываюць косці нашых продкаў, памерлых сваёй смерцю і закатаваных сталінскімі апрычнікамі, спаленых у сотнях Хатыняў і палеглых на гэтай зямлі, бароначы яе ад фашыстаў, паўсюль успыхнула полымя свечак. Кветкі і слёзы, прамовы і жалобныя набажэнствы -- усё было ў гэты дзень.**

**На сёлетнія "Дзяды" было халоднае надвор'е, з мокрым снегам і золлю. Але гэта не стрымала людзей, якія прынеслі агонь сваёй памяці да крыжоў і абеліскаў, сваімі журботнымі думамі падзяліліся з тымі, каго сёння няма сярод жывых.**

**НА ЗДЫМКАХ: ля сімвалічнай брамкі, устаноўленай у цэнтры Мінска, прамаўляе Васіль БЫКАЎ; хвіліны роздуму аб ахвярах сталінскага генацыду, на першым плане Ніл ГІЛЕВІЧ; "Дзяды" — гэта слёзы, кветкі і полымя свечак.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## *НАМ ПІШУЦЬ*

# ШТО ПАГРАЖАЕ БЕЛАРУСАМ?

Шаноўная рэдакцыя!

Дзякуючы вашай газеце я ў значнай ступені, як гавораць, у курсе спраў, што адбываюцца на Радзіме. І штогодні водпуск таксама дае магчымасць больш бачыць жыццё простых людзей, і ў першую чаргу сялян, без падмалявання.

Зыходзячы з гэтага, я маю поўную падставу выказаць свае меркаванні наконт будучыні Беларусі. Дарэчы, пасля майскага рэферэндуму маю Радзіму лепш называць "Северо-Западный край". Гэта будзе больш дакладна адпавядаць, як гавораць гісторыкі, рэаліям часу. Як мне ні сумна, але павінен канстатаваць, што этнічная самасвядомасць маіх землякоў у многа разоў слабейшая за самасвядомасць тых народаў, якіх амаль ніхто не ведае, к прыкладу -- юкагіраў. І гэта звязана з тым, што беларусы не маглі вырашыць для сябе, і так і не вырашылі да гэтага часу, хто яны -- ці рускі "субэтнас", ці палякі...

Гэта куды б ні ішло. Але ёсць усе падставы гаварыць, што беларусы як народ зыходзяць з гістарычнай арэны ў фізічным плане. Карацей, беларусаў больш памірае, чым нараджаецца. І гэта бачна па маёй вёсцы. Саўгас, які там існуе, закончыць сваё жыццё ў першых гадах наступнага стагоддзя. Гадоў яшчэ дваццаць назад там было столькі народу, што цяжка было тады ўявіць сучасную карціну...

Чытаю выступленні Аляксандра Лукашэнкі і іншых палітычных дзеячаў і не бачу, што яны клапоцяцца аб "сохранении своего народа". Ідзе толькі барацьба за захаванне свайго становішча. Вядома, калі ўлада змагаецца толькі за ўладу, то добрага не атрымаецца. Народ быццам бы і прысутнічае ў іх прамовах, інтэрв'ю, але не больш, а як вядома, народ складаецца з асоб, якія, у сваю чаргу, таксама падзяляюцца па сацыяльнаму становішчу, і па матэрыяльнаму, і г.д. Мы можам па-рознаму ставіцца да камуністычнага праўлення, але ў праграмных установках партыі ўказвалася "дойти до каждого человека". Праўда, гэта паўсюдна не выконвалася, але ж было такое паняцце...

Як вядома, нацыя можа існаваць толькі пры адной умове: у кожнай сям'і павінна быць не менш двух-трох дзяцей. Ці знойдзем мы зараз гэта ў Беларусі? Звычайна ў сям'і зараз адно дзіця, якое, як правіла, вырастае эгаістам. А працягласць жыцця? У Расіі ўжо дыскутуюць, каб даваць пенсію з 55-ці гадоў мужчынам, а жанчынам з 50-ці. Думаю, у недалёкай будучыні гэта будзе абмяркоўвацца і ў беларускім парламенце.

Пагражае беларусам і хвароба, якая мае назву дэбілізм. Прычынай яе, як усім вядома, з'яўляецца п'янства. Можна бясконца гаварыць, чаму так сталі піць людзі, але факт застаецца фактам: п'юць, што называецца, ад малога да старога. Дастаткова зайсці ў звычайны сельскі клуб, і адкрыецца карціна, што міжволі думаеш, куды ты трапіў, бо сапраўдныя дзікуны ў параўнанні з імі гэта цывілізаваныя людзі. Усеагульная п'янка вядзе да таго, што чалавек не толькі не здольны на высокапрадукцыйную працу, але і простая работа, якая патрабуе напружання "мазгоў", яму не пад сілу... А як вядома, самая сучасная тэхніка ў руках такога "дзікуна"-- гэта кавалак жалеза. У расійскіх газетах паведамлялася, што больш 50-ці працэнтаў салдат Расійскай арміі не ў стане асвоіць сучасную тэхніку. Думаю, што такое становішча і ў Беларусі. Я не ведаю, колькі ў Беларусі дэбільных асоб, але вядома адно: калі тая ці іншая нацыя мае іх 15--17 працэнтаў, яна пачынае дэградзіраваць.

Здзіўляе мяне заява некаторых палітычных лідэраў аб тым, што вось пабудуем здаровую эканоміку, а потым пачнём выхоўваць чалавека. Але, як вядома, першым прынцыпам эканомікі з'яўляецца "духовно-нравственный". Ён грунтуецца ў значнай ступені на духоўных каштоўнасцях.

Такі прынцып вельмі добра дзейнічае ў Японіі, ды і калісь у Савецкім Саюзе быў і нават пры ўсіх хібах даваў добрыя вынікі ў развіцці эканомікі.

Не менш важным у жыцці любога грамадства, тым больш нашага, з'яўляецца "наличие" ідэала. Ні адзін палітык, якім бы ён ні быў разумным і аўтарытэтным, не зрушыць з месца нічога, калі не закране большасць сваімі праектамі, што дадуць магчымасць выйсці з крызіснага становішча.

Глыбока ўпэўнены ў тым, што аб'яднанне Беларусі з Расіяй, названае канфедэрацыяй, трэба правільна называць уваходжаннем Беларусі ў склад Расіі. Але і гэта не вырашыць праблему аздараўлення нацыі. Патрабуецца ў першую чаргу паўсядзённая, чорная работа, да якой мы не прывыклі. Нам давай трыбуну, і мы будзем граміць ворагаў, якія перашкаджаюць ажыццяўленню грандыёзных планаў.

Я не Павел Глоба. Але глыбока ўпэўнены, што пры такой сітуацыі з цягам часу замест беларусаў будуць жыць на нашай зямлі азіяцкія народы, і ў першую чаргу кітайцы. У свой час вядомы кітайскі філосаф Канфуцый гаварыў, што яны мірным шляхам заваююць свет. Не за гарамі той час, калі Кітай апярэдзіць Злучаныя Штаты і яго эканоміка стане самай моцнай у свеце. Для гэтага спатрэбяцца новыя тэрыторыі. І ўжо зараз расійскі Далёкі Усход, дзе жыве адносна невялікая колькасць насельніцтва, павольна засяляецца кітайцамі, і ўлады нічога не могуць зрабіць, бо Расія вельмі слабая дзяржава. Уся магутнасць яе ў ядзерным патэнцыяле, не больш. Так, крок за крокам, будзе ісці засяленне кітайцамі... тэрыторый слабых народаў.

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**
Расія.

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# ”КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ”




Пасьля выкананьня ўсіх фармальнасьцяў у астрозе нас адвялі на вакзал. У вагоне мы занялі два аддзяленьні. У кожным зь іх размясьцілася па чатыры салдаты і тры арыштанты. Камендант аховы пайшоў на вакзал праштампаваць падарожныя дакументы. Я меў пры сабе крыху грошай, якія Лёня пакінула для мяне ў турэмнай канцылярыі. Папрасіў начальніка купіць мне два пачкі папяросаў, запалкі, а з рэшты харчоў -- булак і каўбасы. Афіцэр аддаў грошы салдату і паслаў яго да кіёскаў, разьмешчаных на пероне. Салдат прынёс мне пяцьдзесят папярос, пачак запалак, некалькі булак і крыху каўбасы.

-- Купіў на ўсе! -- прамовіў чырвонаармеец.

-- Добра. Дзякую!

Пачаў падсілкоўвацца. Таварышам майго падарожжа даў крыху каўбасы, булак. Тыя падзялілі паміж сабой.

У гадзіну дня цягнік рушыў у дарогу. Я сядзеў на лаўцы паміж двума чырвонаармейцамі, а насупраць нас сядзелі два салдаты і два арыштанты. Наша купэ было першым ад тамбура. Яго адгароджваў вузкі калідор. Уздоўж па вагону, зь левага боку, ішоў доўгі, досыць шырокі праход, які злучаў сабой усе аддзяленьні. Другая палова аховы і рэшта арыштантаў разьмясьціліся за намі.

Вагон быў перапоўнены. Аддзяленьні былі напханыя людзьмі да краёў. У пераходзе наставілі куфраў, кашоў, мяшкоў. Людзі пазалазілі на палкі. У паветры перакрыжоўваліся крыкі і праклёны. Нарэшце ўсе прыстасаваліся і пачаліся размовы, жарты.

Непадалёку ад Барысава ў вагон зайшоў чыгуначны кантроль ЧК. Правяраючы дакументы пасажыраў, чэкісты падышлі да нас. Камендант аховы падаў ім падарожныя дакументы. І вымавіў:

-- Разам са мной дзевяць чалавек аховы і шэсьць арыштантаў...

Чэкісты праверылі дакументы, агледзелі нас і пайшлі далей.

У Оршы зноў прыйшоў кантроль ЧК.

Калі выехалі з Оршы да Смаленска, пачало зьмяркацца. Гледзячы праз вакно вагона наўскасяк угару, заўважыў на небе Вялікую Мядзьведзіцу... Так даўно ня бачыў яе!.. Прыгадала мне столькі вясёлых і сумных рэчаў, выклікала столькі думак. Доўга ўзіраўся на яе, пакуль адзін з салдатаў не загадаў мне адсунуцца ад вакна.

-- Глядзі, глядзі, нічога табе гэта не дапаможа!.. Ня выскачыш!..

-- Я нічога... я на зоркі пазіраў...

-- Зоркі?.. Вось тут зоркі! -- чырвонаармеец стукнуў далонёй па будзёнаўцы, на якой была спераду нашыта выразаная з чырвонага сукна вялікая пяціпраменная зорка.

Астатнія салдаты рассьмяяліся. Я адсунуўся ад вакна. Чырвонаармейцы курылі і без вялікага жаданьня размаўлялі. Мае сябры, што сядзелі супраць на лаўцы, паснулі. Салдаты драмалі. Яны дамовіліся, што будуць па чарзе ўдвух пільнаваць нас.

Прыйшоў малодшы камандзір і загадаў:

-- Ну, "ребята", не заснуць!.. Будзьце пільнымі!..

-- Будзьце спакойнымі. Не засьнём! -- адгукнуўся адзін з чырвонаармейцаў.

-- Ну, ну!

Малодшы камандзір пайшоў у суседняе аддзяленьне.

Набліжалася поўнач. Да Смаленска засталося некалькі станцый. Прыкінуўшыся, што сплю, я сачыў за аховай. Трое салдат заснула: толькі адзін, той, што сядзеў каля выхаду, паставіў ногі так, каб ніхто ня змог выйсьці з вагона на тамбур, не зачапіўшыся за яго. Ён таксама драмаў, аднак час ад часу прыадплюшчваў вочы, акідваў позіркам аддзяленьне і пасьля зноў засынаў. Раз-пораз з вагона хто-небудзь выходзіў у калідор, дзе была прыбіральня, і тады ён прымаў свае калені з дарогі, дазваляючы адкрыць дзьверы.

Наша аддзяленьне напалову хавалася ў цемры. Наўскасяк сюды трапляла толькі сьвятло ад насьценнага ліхтара, падвешанага ўверсе на калідоры. Там гарэла сьвечка.

У нейкі момант, нахіліўшыся з аддзяленьня далёка ўправа, зірнуў у калідор. Ён да краёў быў завалены людзьмі, якія спалі на падлозе. Дзе-нідзе чулася ціхая гамана. Зразумеў, што будзе цяжка дабрацца да выхаду з вагона. Акрамя таго, існавала небясьпека -- салдаты і афіцэр, якія пільнавалі арыштантаў у наступным аддзяленьні і маглі ня спаць, заўважылі б мяне. Адсюль я ня мог бачыць, што там робіцца, але чуў нейкія шоргаты нагамі і шолахі.

"Можа, апусьціць вакно?" -- падумалася.

Аднак разважыўшы, адкінуў гэты план. Адчыняючы вакно, мог бы разбудзіць каго-небудзь з аховы, і тады б усё [illegible]шло намарна. Зноў выгля[illegible] з калідор. Здаля ўбачыў постаць чалавека, што набліжалася да нас. Гэта быў салдат, які, накінуўшы на плечы шынель, крочыў да выхаду, асьцяро[illegible]а пераступаючы праз со[illegible] людзей. Падыходзіў [illegible]ё бліжэй. Быў ужо каля мяне. Адчыняючы дзьверы, адсоўвае на бок калена салдата з нашай аховы, які расплюшчвае вочы і ўглядаецца ў яго.

-- Што-о?

-- Нічога, таварыш... Адсуньце ногі!

Чырвонаармеец дазваляе прайсьці, уладкоўваецца на лаўцы, плюючы некуды на сьцяну, засоўвае рукі ў кішэні шыняля і голасна пазяхае. Потым, нахіліўшыся наперад, уважліва аглядае аддзяленьне. Я прыкідваюся, што сплю. Салдат зноў упіраецца плячыма ў сьцяну і заплюшчвае вочы. Рамень ад карабіна ён перакінуў праз калена, а дула ўсадзіў паміж ног. Забыўся загарадзіць імі дзьверы... А можа, хацеў пачакаць таго чырвонаармейца, які за хвіліну да гэтага выйшаў з вагона.

Пільна ўзіраюся ў салдата. Вырашыў, што буду ўцякаць нават у самай непрыдатнай сітуацыі, але стараюся дачакацца лепшай. Праз хвіліну заўважыў, што галава салдата пачала ападаць на грудзі.

Падымаюся зь месца. Раблю два крокі з аддзяленьня на калідор, затым крок наперад. Павольна націскаю клямку і адчыняю дзьверы. Шырэй... шырэй... Гляджу на твар салдата. Той раптоўна, нібы адчуўшы мой позірк, расплюшчвае вочы. Утаропіўся ў мяне мутным позіркам. Я зрабіў хуткі рывок наперад.

-- А ты куды?! А?.. Сто-ой!..

У гэты ж момант, затрэснуўшы за сабой дзьверы, я скокнуў наперад. Адчыніў дзьверы, якія вядуць на пляцоўку, і маланкава зачыніў іх. У той жа момант расчыніліся дзьверы з вагона, і я чую нялюдскі крык:

-- Товарищи!.. Бегут!.. Вставайте! Товари...

Я кінуўся да дзьвярэй, якія вялі з пляцоўкі на вагонныя прыступкі. Моцна націскаю на ручку і піхаю дзьверы наперад... Не паддаюцца. Праз імгненьне апамятаўся: дзьверы адчыняюцца ўсярэдзіну, а я піхаю іх вонкі. Рву іх на сябе. Дзьверы адчыненыя. Ззаду цемру працінае шырокая паласа сьвятла. На пляцоўку ўвальваюцца ўзброеныя людзі. Чую іх галасы:

-- Стой, дрэнь!.. Стой!..

Перада мной чорная ноч, засеяная залатымі кропкамі зорак. Раблю моцны кідок наперад у густы, таямнічы змрок...

Падаю ў паветраны віхор. Мяне круціць і адкідвае некуды набок. Сэрца замірае ў грудзях. На момант у вачах блiснула доўгая сьветлая палоска, а потым усё зьнікла ў цемры і цішы... глыбокай цішы...

## 4

Пад раніцу я прыехаў у Оршу. Вылез са сваёй схованкі і падаўся да паравоза. З падслуханай размовы чыгуначнікаў даведаўся, што цягнік ня пойдзе далей. Тады я накіраваўся па рэйках наперад, усё больш аддаляючыся ад станцыі.

Не хацеў, каб дзень засьпеў мяне ў Оршы: ведаў -- тут узмоцненая служба ЧК і міліцыі. Едучы цягніком, я вымушаны быў сядзець у сваёй схованцы нерухома, і холад даймаў мяне. Зараз жа стараўся разагрэцца хуткай хадзьбой.

Калі пачало днець, адышоў ад Оршы на 10 кіламетраў. Цяпер адчуваў сябе ў большай бясьпецы. Аддаліўся больш дзесяці кіламетраў ад месца маіх уцёкаў.

Хацеў дабрацца да наступнай чыгуначнай станцыі за Оршай, таму ўсьцяж крочыў наперад: то сьцяжынкамі ля рэек, то па выбітых коламі вазоў дарогах. Калі здалёк заўважаў якія-небудзь будынкі, абыходзіў іх зводдаль.

Праз некалькі гадзін дабраўся да станцыі. Не падыходзіў лішне да вакзала, а падаўся ў лес. Там залез у гушчар хмызьняку і лёг спаць.

З набліжэньнем цемры абышоў станцыю і ўзабраўся на палатно. Вечар быў цёплы. Прылёг непадалёку ад рэек і пачаў чакаць любога цягніка, які ішоў бы ў напрамку Мінска.

Надакучваў голад, але есьці нічога ня меў. Грошай таксама не было.

Толькі пасьля поўначы падышоў пасажырскі цягнік. Прыпыніўся на станцыі. Па вузкай жалезнай драбінцы, прымацаванай да задняй сьцяны вагона, я ўзьлез наверх і распластаўся на страсе. Неўзабаве цягнік рушыў ад станцыі. Вецер сьвісьцеў у маіх вушах. Вагон гайдаўся справа налева. Зрэдку абсыпаў мяне рой залатых іскраў, якія выляталі з паравознай трубы.

Калі цягнік прыпыняўся на станцыях, я ссоўваўся на процілеглы ад вакзала край страхі, каб мяне немагчыма было заўважыць з перона. Здраньцьвелі рукі. Было вельмі холадна. Дрыжэў усім целам, аднак не прыпыняў падарожжа. Калі выехалі з Барысава, пачало сьвітаць, а ў Смалявічах я вымушаны быў пакінуць цягнік, бо мяне маглі ўбачыць людзі... Вырашыў не рызыкаваць. Не хацелася папасьціся пасьля ўсяго перажытага.

Цягнік панёсься далей, а я пакрочыў уздоўж рэек. Да Мінска заставалася больш 40 кіламетраў. Голад усё мацней даймаў мяне. Адчуваў моцную слабасьць. Калі нахіляўся, то ў вачах цямнела.

Ідучы па рэйках, у пэўным месцы ўгледзеў будку дарожніка. Дзьверы ў яе былі адчыненыя. Прыкмеціў унутры будынка жанчыну, якая ў балеі мыла бялізну. Каля парога гулялі двое дзетак. Хвіліну вагаўся, а потым... пайшоў да хаткі.

-- Добры дзень! -- прывітаўся з гаспадыняй.

-- Добры дзень! Што скажаце?

-- Можа, гаспадынька дасьць мне што-небудзь зьесьці!

-- А адкуль вы?

-- Я зь Мінску. Быў у Смаленску на рабоце, а зараз вымушаны вяртацца дахаты... Купіў білет да Барысава, бо не хапіла мне грошай на дарогу... Два дні ўжо ня еў.

Будка дарожніка была разьдзелена перага[illegible]одкай на дзьве палавіны. Па[illegible]маёй размовы з гаспадыняй [illegible]ыя дзьверцы ў перагародцы адчыніліся і адтуль паказаўся мужчына гадоў 50. У яго быў дробны твар з хітра прыплюшчанымі вачыма. Дарожнік уваж[illegible]гледзеў мяне і зьвярнуўся [illegible]онкі:

-- Дай яму, Даша, што-небудзь зьесьці. Пакармі яго добра!.. Я зараз вярнуся... Вы сядайце... адпачніце! -- кінуў мне гаспадар.

Я прысеў на табурэт з краю стала, аднак адчуваў сябе неспакойна. Не спадабаўся мне погляд дарожніка. А словы, якія сказаў жонцы, здаліся падазронымі. Нахіліўшыся да вакенца, я зірнуў у яго. Убачыў, што дарожнік сьпяшаючыся крочыў у напрамку нейкіх забудоў, стрэхі якіх праглядалі ўдалечыні праз верхавіны дрэў. Некалькі разоў азірнуўся і яшчэ хутчэй пашыбаваў наперад.

Жонка адрэзала ад паловы буханкі вялікую лусту і паклала яе на стале. Я ўзяў хлеб і пачаў пасьпешліва есьці.

-- Зараз дам вам малака!

Зьняла з паліцы збанок і наліла малака ў кубак. З прагнасьцю яго выпіў. Жанчына наліла мне яшчэ адзін кубак. Я працягваў пазіраць у вакно. Еў хлеб, піў малако і сачыў за дарожнікам, які ўсё больш набліжаўся да купіны дрэў з будынкамі. Тады, паклаўшы недаедзены хлеб у кішэню, вымавіў:

-- Вельмі вам удзячны, гаспадынька, за хлеб і малако. Калі хочаце, дык пакіну вам гэтую куртку, што на мне, бо я ня маю грошай...

-- Не, нічога ня трэба... Але ж куды вы?.. Зараз зрыхтую абед!

-- Ня маю часу чакаць!

-- Дык усмажу яечню.

-- Дзякую, яечню не люблю... Да пабачэньня!

Хутка выйшаў з хаты дарожніка і пакрочыў у адваротным напрамку, у бок Смалявіч. Калі адышоўся досыць далёка, азірнуўся. Кабета стаяла на рэйках і глядзела мне ўсьлед. Далей чыгунка рабіла паварот: апынуўшыся там і не пакідаючы за сабою сьлядоў, я зьбег з палатна і падаўся да хмызоў, якія расьлі ўскрай лесу. Не паказваючыся на адкрытых мясьцінах, хутка пайшоў назад. Адначасова назіраў за чыгункай.

Ідучы па лесе, параўняўся з будкай дарожніка. Убачыў трох чалавек, якія таропка крочылі ад тых будынкаў лясной сьцежкай. Гэта быў дарожнік з двума мужчынамі ў вайсковай форме. Непадалёку ад будкі яны ўзабраліся на палатно. Да іх кінулася жонка дарожніка. Нешта расказала, паказваючы рукой у напрамку, у якім я перад тым аддаліўся. Яны хуткімі крокамі накіраваліся туды. А я падаўся далей, стараючыся трымацца бліжэй лесу, але і не адыходзячы занадта далёка ад рэек.

Перабраўся праз нейкую рэчку, апалудні апынуўся непадалёк станцыі Калодзішчы. Тут увайшоў у лес і вырашыў застацца ў ім да вечара.

Калі над зямлёй запанавала ноч, я дабраўся да Мінска. Не заходзячы ў горад, праставаў нацянькі праз палі, ідучы спачатку на захад, а пасьля на паўднёвы захад. Праз чатыры гадзіны ўзьбіўся на тракт з Мінска да Ракава. Знаходзіўся блізка ад вёскі Яркова, у 9 кіламетрах ад Мінска. Тут спусьціўся з высокай гары ўніз. Ведаў, што там знаходзіцца студня, хацеў наталіць смагу. Выцягнуў жураўлём са студні абкутае жалезам драўлянае вядро, доўга піў. Пасьля рушыў далей у дарогу. Досыць хутка крочыў прыдарожнымі сьцежкамі, стараючыся не губляць з вачэй тракт.

На чатырнаццатай вярсьце зайшоў у лес і зноў адпачыў --- быў вельмі стомлены. Тут выкурыў апошнюю папяросу.

Пакінуўшы зьлева Старое Сяло, увайшоў у Старасельскі лес і па ўскрайку цягнуўся наперад. Знаходзіўся на добра вядомай мне дарозе, ішоў упэўнена. Зрэшты, мог бы ісьці па зорках -- неба было чыстае.

Усё больш віднела. Ня думаў, што ўжо раніца, таму быў непрыемна зьдзіўлены. Да мяжы заставаўся добры кавалак шляху, а я знаходзіўся ў самым небясьпечным месцы. Вярнуўся назад у Старасельскі лес і крыху адпачыў.

Старасельскі лес мне быў добра вядомы. Тут я шмат разоў праходзіў з таварам, тут мы рабілі днёўкі. Вырашыў цэлы дзень ня спаць. Страшэннай няўдачай было б для мяне папасьціся зноў, пасьля такой цяжкай дарогі, уцёкаў з вагона. А тут маглі б убачыць пастухі і навесьці падпольнікаў ці міліцыянераў.

Знайшоў для сябе добрую схованку і ўладкаваўся ў ёй на дзень. На выпадак абароны падрыхтаваў ёмкі кол. Вельмі хацелася спаць, але калі заўважыў, што цяжка адольваць санлівасьць, тады падымаўся зь месца і паціху хадзіў непадалёк схованкі вакол дрэў, кустоў.

Шмат разоў чуў галасы і воклічы пастушкоў, якія швэндаліся па лесе. Зрэдзь часу адрозніваў крокі людзей, якія праходзілі паблізу. Неўзабаве пасьля палудня з гушчара кустоў заўважыў двух хлопцаў. Адзін трымаў у руцэ лазовы кошык, другі нёс доўгі кій. Яны глядзелі ўгару на дрэвы і нешта шукалі там. Наблізіліся да маёй схованкі: я ўжо хацеў пакінуць яе, аднак яны неўзабаве адышлі. Калі ж сонца схілілася на захад, вырушыў лесам у дарогу. Крочыў павольна, уважліва ўзіраючыся ў навакольле.

Пакуль выбраўся з Старасельскага лесу, ужо зьмяркалася. Праз пэўны час адчуў нейкую дзіўную дрыготку, зрабілася холадна. Каб ня ляскаць зубамі, вымушаны быў моцна сьціскаць сківіцы.

Крочыў далей. Рабілася ўсё халадней, а цела было мокрае ад поту... Я лёг на шырокім узьмежку і ўвесь закалаціўся. Адчуваў сябе штораз горш... А да граніцы было яшчэ далёка.

Усхопліваўся на ногі і кідаўся наперад. Зубы стукалі без перапынку. Я ледзьве арыентаваўся ў навакольлі. Часта спыняўся і глядзеў на Вялікую Мядзьведзіцу. Зоркі то круціліся на месцы, то ападалі дзесьці ўніз... Зноў адшукваў сузор'е і амаль інстынктыўна крочыў наперад -- на захад.

Працяг.
Пачатак у №№ 29—43.

## ВЕРНІСАЖЫ

Ёй часта сняцца сібірскія прасторы і прыгажосць далёкаўсходняга краю. Там прайшла значная частка жыцця Любові Самохінай -- таленавітай мастачкі з горада Бярозы, там засталіся магілы яе бацькі і мужа...

Лёс жорстка абышоўся з іх сям'ёй. Пасля вайны быў рэпрэсіраваны і высланы ў Сібір бацька, за ім паехала і маці. Здавалася, дзецям суджана стаць назаўсёды сібіракамі, тым больш, што і яны абзавяліся там сваімі сем'ямі. Але ўсе гады жыцця ў Сібіры маці выхоўвала ў дзецях цёплыя пачуцці да роднай беларускай зямлі. Ад яе ўпершыню пачула Люба аб прыгажосці краю, якога ніколі не бачыла.

Маляваць яна пачала з дзяцінства. Спачатку гэта былі малюнкі герояў прачытаных кніг. З узростам тэмы станавіліся ўсё больш акрэсленымі, сур'ёзнымі, з філасофскім разважаннем. Напрыклад, тэму адной з карцін -- "Удовін хутар" -- ёй падказаў верш, апублікаваны ў часопісе і прысвечаны жанчынам-удовам вёскі Бармуты, што на Брэстчыне.

Пяты год, як Любоў Васільеўна следам за мамай пераехала жыць у Бярозу. І ўсе гэтыя гады рыхтавалася да творчай сустрэчы са сваімі землякамі. Яе першая ў Бярозе і трынаццатая па ліку выстава адкрылася ў мясцовым музеі. Водгукі на экспазіцыю -- самыя цёплыя. А галоўнае: людзі разумеюць аўтара, суперажываюць з ёю.





НА ЗДЫМКАХ: мастачка з Бярозы Любоў САМОХІНА; работа "Удовін хутар".

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

# АДРАДЖЭННЕ "ФАЎСТА"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Вось што паведамляе спадарыня Собалева ў артыкулах часопіса "Мастацтва". У XIX стагоддзі над музыкантамі, якія праславілі род Радзівілаў, узвышаецца постаць Антонія Генрыка Радзівіла, ардыната нясвіжскага і алыцкага, заснавальніка берлінскай лініі роду, намесніка Вялікага княства Пазнанскага. Нашчадкі яго прынеслі славу роду і ў XX стагоддзі. Станіслаў Аўгуст Радзівіл, прапрапраўнук Антонія Генрыка, ажаніўся з Каралінаю Лі Баўэр -- роднаю сястрою Жаклін Кенэдзі. Прэзідэнт ЗША Джон Кенэдзі стаў хросным бацькам іх дачушкі ў 1961 годзе.

У жылах князя Антонія цякла кроў яшчэ аднаго старажытнага і ўплывовага роду Вялікага Княства Літоўскага -- Агінскіх. Родная сястра Міхала Казіміра Агінскага, "гетмана-кларнета", была бабуляю па матчынай лініі Антонія Генрыка Радзівіла. Князь Антоні нарадзіўся 13 чэрвеня 1775 года ў Вільні, у юначыя гады атрымаў грунтоўную агульную і мастацкую хатнюю адукацыю, быў добрым віяланчэлістам, браў сур'ёзныя ўрокі малюнка і жывапісу. У 1794 годзе малады князь трапляе ў Берлін. Яго бацькі маюць намер ажаніць Антонія з князёўнай Луізай з Гагенцолернаў, пляменніцай прускага караля Фрыдрыха Вільгельма II. І 17 сакавіка 1796 года маладыя пабраліся шлюбам. Асталяваліся яны ў Берліне, у палацы, які падараваў ім бацька Антонія. Князь Антоні Радзівіл служыў музам. Ніводны жывапісны ці музычны талент не мог праехаць Берлін, не апынуўшыся пры гэтым у салоне князя. Сам гаспадар удзельнічаў у вечарах як віяланчэліст і спявак. Антоні Радзівіл быў бацькам васьмярых дзяцей. З чатырох дачок дзве памёрлі ў маленстве, Ванда ж і Эліза зачароўвалі сэрца й розум усіх, хто іх ведаў. Шапэн назваў паненак Радзівіл "Дзвюма Эвамі". Брат Антонія, Міхал Гедэон, браў удзел у паўстанні 1830 года. Музычны густ князя фарміравалі творы Баха, Гендэля, Глюка, Моцарта, Бетховена. Яго блізкімі знаёмымі былі музыканты Карл Цэльтэр, Спанціні, Генрыета Зонтаг. Шапэн прысвяціў князю адзін са сваіх фартэпіянных твораў. Антоні Радзівіл быў знаўцам і збіральнікам гравюраў, сам умела маляваў, добра арыентаваўся ў дакладных навуках, асабліва ў матэматыцы.

І вось гэты чалавек, які не меў прафесійнай музычнай адукацыі, але меў свежы і арыгінальны кампазітарскі дар і надзіва багаты ўнутраны свет, натхніўся на грандыёзную працу -- стварэнне музыкі да першай часткі "Фаўста" Гётэ. Менавіта таму, што ён быў кампазітарам-аматар, князь Антоні меў адвагу і не баяўся скампраметаваць сябе, калі б не справіўся з задумай. Але Радзівіл стварыў сапраўды яркі і адметны твор. Адзін з вядомых музыкантаў XIX стагоддзя напісаў пра музыку Радзівіла: "Чуў нешта новае, арыгінальнае, магутнае... Маё ўспрыманне бессмяротнай паэмы змянялася разам з формамі гукаў і захапляльнымі мелодыямі, такімі, якія можа стварыць толькі розум глыбокі і глыбокаадукаваны. Можна сказаць, што цяпер мы маем сапраўды Фаўста ў музычнай літаратуры". Гэта далёка не адзінае сведчанне высокай адзнакі, дадзенай сучаснікамі твору Антонія Радзівіла. Гётэ назваў яго музыку да "Фаўста" геніяльнай, парывістай кампазіцыяй.

У сваім аналітычным артыкуле, адмыслова прысвечаным музыцы "Фаўста" Антонія Радзівіла, Віктар Скорабагатаў даводзіць пра шматлікія кампазітарскія навацыі, пра пераемнасць задумаў Моцарта, пра выдатную музычную інтэрпрэтацыю геніяльнага літаратурнага твора. Адным словам, першае ў свеце опернае ўвасабленне "Фаўста", здзейсненае князем Антоніем Генрыкам Радзівілам, сталася трыумфам кампазітара.

Партытура оперы расла паступова, запатрабаваўшы блізу дваццаці гадоў. Кампазітар амаль скончыў яе ў 1831 годзе, за два гады да смерці. У 1820 годзе ў Берліне адбылася прэм'ера тэатральнай пастаноўкі фрагментаў оперы. Імпрэза сабрала цвет арыстакратычных і культурных колаў. У ёй бралі ўдзел "першакласны аркестр, хор, які складаецца з лепшых галасоў, дастойных дам, пераважна прыгожых дзяўчат і мужчын, -- і ўсё гэта пад кіраўніцтвам галоўнага каралеўскага інтэнданта ўсіх палацавых імпрэзаў, які выконваў функцыі машыніста, дырыжора і суфлёра ў рэзідэнцыі, у каралеўскім палацы,.." -- сведчыў кампазітар Цэльтэр у лісце да Гётэ.

З цягам часу, да сярэдзіны XIX стагоддзя, "Фаўст" Радзівіла зрабіўся рэпертуарным на многіх оперных сцэнах Еўропы. На радзіму кампазітара, у Вільню, твор трапіў у 1844 годзе. У Варшаве ініцыятарам пастаноўкі фрагментаў з оперы аматарскімі сіламі стаў С.Манюшка. Гэта адбылося ў 1848 годзе. У 1953 годзе Польскім радыё ажыццёўлены амаль поўны запіс "Фаўста" ў польскім перакладзе. На Беларусі выдатны твор Антонія Генрыка Радзівіла да гэтага часу не гучаў ніколі.

Як жа праходзіла першае выкананне фрагментаў оперы ў стольным Мінску? У прапанаванай слухачам кампазіцыі прагучала трэцяя частка ўсяго твора. Непасрэднаму выкананню папярэднічала інфармацыйная прадмова, што было зусім дарэчы. А як толькі са сцэны паляцелі першыя гукі музыкі (гэта было фартэпіяна, фуга Моцарта -- уверцюра да "Фаўста"), у залу пайшлі хвалі светлай энергіі, што ператварыліся потым у суцэльнае поле радасці і ўзнёсласці. Удзельнічалі ў імпрэзе дзесяць выканаўцаў. Алена Бундзелева, Рыгор Палішчук, Сяргей Франкоўскі, Віктар Скорабагатаў --вакалісты; Ганна Каржанеўская, Юля Шырынава, Ігар Алоўнікаў, Алег Алоўнікаў, Яўген Грыдзюшка -- музыканты. Размоўныя сцэны выконваў артыст Юры Авяр'янаў. Усё гучала ў майстэрскім беларускім перакладзе, зробленым Васілём Сёмухам. Мефістофеля ў прапанаванай версіі выконвалі тры асобы: спадары Скорабагатаў, Франкоўскі і Авяр'янаў. У поўным варыянце оперы Мефістофель выступае ў шасці іпастасях -- прыкметы шматаблічнасці Духа Цёмнага. Гледачы сталіся сведкамі таго, як адбываецца жывы працэс творчасці, як падключаны ў гэтым працэсе выканаўцы адзін да аднаго, як пераўтвараюцца яны ў герояў оперы і перадаюць адно аднаму свой вобраз, злёгку імправізуючы. Гэта што да акцёрскага майстэрства. Што да музычнага выканання, яно таксама мела высокі клас. Вельмі прыгожыя галасы. Былі і нечаканасці. Песня Мефістофеля пра блыху была нечаканасцю ў тым сэнсе, што вуха прызвычаілася да хрэстаматыйнай мелодыі Мусаргскага /"Жил-был король когда-то, при нем блоха жила..."/. А тут раптам зусім іншае гучанне, але не менш яскравае. Нумар змяняўся нумарам. Заключная сцэна II акта, "Малітва Грэтхен да Божай Маці", праспяваная цудоўным сапрана Алены Бундзелевай, прымусіла павільгатнець вочы не толькі маёй суседкі побач.

Імпрэза адбывалася ў сцюдзёнай зале, нават чароўная спадарыня Бундзелева вымушана была падчас прадмовы знаходзіцца на сцэне з накінутым на плечы манто. Гэтая ж прычына не дала магчымасці апрануцца публіцы ў адпаведныя нагодзе строі, што зрабіла б атмасферу яшчэ больш святочнаю. Як тое і прынята ў свеце. Гэтая заўвага зусім не ў дакор Дому літаратара. У нашых кватэрах ды ўстановах было таксама нягорача. Ды сённяшні клопат наш такі, што дарэчы працытаваць гётэўскага Мефіста:

**Зямной гароты не люблю:**
**Там столькі слёз,**
**што беднага народа**
**І чорту нават стала шкода.**

На гэтым фоне мастацтва, а найперш -- класічнае, уяўляецца ласкаю Божай. Адна кабета пасля прэм'еры паведаміла, што атрымала тут і асалоду, і ўзнагароду. Узнагароду за тое, што, сабраўшы ўраджай на лецішчы, не спакусілася стомленасцю ды паехала ж у Дом літаратара, дзе далучылася да хараства. Перапрашаю чытача за празаічныя падрабязнасці.

Артысты "Беларускай капэлы" не абмяжуюцца канцэртнаю пастаноўкай. Рыхтуецца тэатралізаванае выкананне ў тэатральных строях. Прыкладаюцца намаганні, каб ажыццявіць пастаноўку на опернай сцэне. У бліжэйшай перспектыве "Фаўст" А.-Г.Радзівіла ў выкананні капэлы пачуюць у Берліне ды іншых гарадах Еўропы.

Дазволю з гэтае выдатнае нагоды паразважаць на тэму нашага Адраджэння. Час ад часу задаю сабе пытанне: чаму мае суайчыннікі так цяжка вяртаюцца ва ўлонне беларушчыны? Мяркую, таму, што ў саміх беларусаў, як і ў вонкавым усведамленні нас іншымі народамі, склаўся ўстойлівы стэрэатып: беларускае -- значыць нешта прымітыўнае, вартае жалю, "дурны мужык...", "колтун в волосах..." і г.д. Адпаведна й мова звязваецца з такімі недасканалымі яе носьбітамі. І вось прыходжу да банальнай высновы, што найлепш бурыць такі стэрэатып асваенне беларушчынай вышэйшых сфер культуры. Менавіта гэткія чыны культуры ёсць найбольш трывалымі ды каштоўнымі вянцамі, што лучаць старадаўнюю і сучасную Беларусь у парваным ланцугу гістарычнай пераемнасці, а разам надаюць беларушчыне годнасці ды шляхетнасці. У такі кантэкст абсалютна трапляе дзейнасць "Беларускай капэлы". Паводле думкі знаёмай спадарыні, дзень, калі ў эфіры прагучала опера "Агатка", да якой спрычынілася і капэла, трэба было б зрабіць нацыянальным святам: такі моцны прарыў быў зроблены гэтым творам у развіцці нацыянальнай свядомасці. Што да "Фаўста", то спашлюся на Віктара Скорабагатава: калі цяпер "Фаўст" становіцца для нас актуальным, значыць, як ні кепска, мы ўсё ж як нацыя пачынаем ачуньваць, бо клапоцімся праблемамі духа і быцця.

"Агатка", "Фаўст" як тыя кветкі, што засохлі між старонкамі Вечнасці, але цудоўна ажываюць, набываючы колер, пах, аб'ём, жывы подых. Боганатхнёная праца адраджае іх.

"Беларуская капэла" -- наша радаснае багацце. У апошніх сцэнах "Фаўста" Гётэ хор Анёлаў спявае:

**... Хай дух адроджаны**
**Вольнасцю дыхае!**

**Зьміцер КАЛІСТРА.**





**НА ЗДЫМКАХ: Антоні Генрык РАДЗІВІЛ. Літаграфія Ольдэрмана; Ё. В. ГЁтэ ў 1810 годзе. Літаграфія І. Ліпмана паводле партрэта Г. Кюгельгена.**

АДБЫЎСЯ ЧАРГОВЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСКАГА САЮЗА МАСТАКОЎ

# БЕЗ ДЗЯРЖАЎНАЙ ДАПАМОГІ

19-20 кастрычніка ў Мінску ў Доме літаратара адбыўся XV з'езд Беларускага саюза мастакоў.

Напярэдадні падзеі ў мастацкіх колах меркавалі, што на ім будуць спрэчкі і дыскусіі, але з'езд праходзіў вяла, ціха і павольна. Размова ішла галоўным чынам аб фінансавай і гаспадарчай дзейнасці саюза. У сваёй справаздачы старшыня БСМ Г.Буралкін адзначыў, што дзяржава зусім не выдзяляе грошы, але кіраўніцтва саюза ўсё ж пераадолела гэтыя цяжкасці. Удалося адстаяць правы на сваю ўласнасць -- Палац мастацтва ў Мінску, галерэю мастацтва ў Гродне і інш. Саюз здаў у арэнду частку свабоднай плошчы, адкрыў пастаянна дзеючую выставу-продаж твораў і на гэтым зарабляў грошы, атрымаў ад Мінскага гарвыканкома ва ўласнасць 200 майстэрняў, дамогся таго, што ветэранаў вайны вызвалілі ад аплаты арэнды за творчыя майстэрні і інш.

Аб праблемах -- творчых і фінансавых -- гаварылі і выступаючыя ў дыскусіі дзеячы мастацтва. Так, скульптар А.Арцімовіч скардзіўся, што на мінулым з'ездзе Міністэрства культуры і Саюз мастакоў абяцалі аб'явіць конкурсы на помнікі М. Багдановічу, Ф.Багушэвічу, К.Каліноўскаму, Ф.Скарыне. Пакуль што аб'явілі конкурс толькі на помнік Ф.Скарыне ў Мінску, але за тры гады зацверджана толькі мадэль помніка, далейшыя работы спынены. Было выказана пажаданне больш устанаўліваць помнікаў беларускім дзеячам, каб шырэй прапагандаваць старажытную беларускую культуру сродкамі манументальнай скульптуры. Няма помнікаў стар адаўнім дзеячам беларускай культуры нават у сталіцы і яе атачэнні -- Заслаўі і іншых гарадах і мястэчках.

У выступленнях мастакоў гучала просьба аб дапамозе ў падрыхтоўцы здольнага "падлеску", з якога вырастуць будучыя таленавітыя майстры. А.Кузняцова засяродзіла ўвагу на неабходнасці выдаткавання грошай на міжнародныя дзіцячыя пленэры. Першы такі пленэр яна ўжо сама арганізавала ў 1995 годзе. Ён паказаў, што ў нашых дзяцей ёсць вялікія мастацкія здольнасці, якія варта аберагаць і падтрымліваць.

Мастак-графік В.Лукашук адзначыў, што многія мастакі ўтрымліваюцца "на паверхні" за кошт продажу сваіх твораў на міжнародных выставах. Яны вязуць за межы Беларусі і творы сваіх сяброў, дапамагаючы ім фінансава. Гэтыя ж мастакі вязуць назад, у Беларусь, абменныя выставы. Такая дзейнасць вельмі карысная для рэспублікі: пашыраюцца веды аб ёй у свеце.

Складанае становішча на Барысаўскім мастацкім камбінаце выклікае заклапочанасць. У апошні час рэзка знізіліся дзяржаўныя заказы на ткацкія работы, і габеленавы цэх зачыняецца. А ствараўся ж ён з вялікімі цяжкасцямі і быў самы магутны ў былым СССР. Менавіта тут быў вытканы "Габелен веку", спраектаваны мастаком А.Кішчанкам. Дырэктар камбіната Г.Сіверцава прапанавала знізіць падаткі мастацкім камбінатам, каб яны маглі існаваць.

Многія пытанні, якія хвалявалі мастакоў, закрануў у сваім выступленні міністр культуры і друку А.Бутэвіч. Ён выказаў падзяку мастакам за тое, што ў гэтых цяжкіх умовах яны захавалі традыцыі беларускага мастацтва, якое ведаюць і цэняць за мяжой. Утрымалася яно толькі на іх энтузіязме, бо аплата працы мастакоў неадэкватная іх таленавітым творам. Замест трох працэнтаў, вызначаных на культуру, Міністэрства атрымлівае ў 1995 годзе толькі 1,2 працэнта. Мастацкія кадры пакідаюць Беларусь і перабіраюцца ў іншыя краіны СНД і Прыбалтыку. Нават ансамбль "Харошкі" збіраўся з'ехаць у ЗША.

"Мы павінны захаваць н[illegible]ы таленты ў Рэспубліцы Бела[illegible], -- сказаў міністр. -- Грош[illegible]а "падлесак" мы знойдзем".

Разам з тым А.Бутэвіч прапанаваў сумесна з міністэрствам абмеркаваць план выставачнай дзейнасці БСМ на 1996 го[illegible] дапамагчы яму фінансава, [illegible]рантаваў 50 працэнтаў аплаты праз дзяржаўныя выдавецтвы на выпуск альбомаў і буклетаў, а таксама абяцаў фінансаванне затрат на замежныя выставы.

Міністр прапанаваў таксама праводзіць выставы абласных мастацкіх філіялаў у Мінскім выставачным цэнтры, каб творчасць перыферыйных мастакоў была вядомая і сталічным наведвальнікам. А помнік Ф.Скарыне будзе ўстаноўлены ў 1997 годзе ў Празе і Мінску, сказаў А.Бутэвіч. Міністр падтрымаў ідэю стварэння музея скульптуры і філіяла Нацыянальнага мастацкага музея, дзе будуць збірацца творы сучаснага беларускага мастацтва.

-- Лепш вывозіць выставы, чым творы, за межы краіны, -- адзначыў міністр.

Э.Агуновіч абвінаваціў калег у тым, што яны прамаўчалі, калі праводзіўся рэферэндум па пытанні нацыянальнай сімволікі. "Асвячоныя вякамі сімвалы ніхто не можа мяняць, -- сказаў ён. -- Яны ёсць такія, як былі ў вяках." Ён прапанаваў узняць голас у абарону беларускай культуры.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

---

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасоўцы выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

## ПРЭМ'ЕРЫ





**У Брэсцкім тэатры драмы і музыкі новы тэатральны сезон пачаты спектаклем "Купала" па п"есе Аляксея Дударава. Гэта першая пастаноўка п"есы.**

**Паставіў спектакль галоўны рэжысёр тэатра заслужаны артыст Беларусі Сяргей Еўдашэнка.**

**НА ЗДЫМКАХ: сцэна са спектакля; у ролі Купалы актрыса Тамара ЛЯЎЧУК.**

# А БЫЛО Б ТОЛЬКІ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ

**Юрку Геніюшу, сыну слаўных Ларысы і Янкі Геніюшаў. На жаль, яму, бадай, пісалася куды менш, чым хацелася. Ды і друкавацца не так шмат. Найбольш поўна яго творчасць прадстаўлена ў кнізе "З маёй званіцы", што выйшла ў Беластоку ў 1993 годзе -- апавяданні, гумарэскі, фельетоны.**

**У невялікай згадцы "Успамінаючы Юрку", змешчанай на апошняй старонцы гэтага зборніка, Сакрат Яновіч піша: "Выхаваны ў стараеўрапейскай Празе і маючы бацькоў патомных інтэлігентаў, не паддаваўся маніпуляцыі. Не дазваляў калечыць свае тэксты. Не пагаджаўся дапісваць у іх тое, чаго не напісаў. Гонар не бывае без цаны, як і сумленне. І ён заплаціў гэтую чортавую даніну -- не толькі ў выглядзе неапублікаванага, але таксама хваробамі, стратай нерваў, урэшце, заўчаснай смерцю ў свае пяцьдзесят".**

**Нагадаем: нарадзіўся Ю. Геніюш 21 кастрычніка 1935 года, трагічна пайшоў з жыцця 20 лістапада 1985-га.**

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

### ЛЯ ПОМНІКА МАЦІ РАЙНІСА Ў ВІЦЕБСКУ

Год нямала з блізкага далля,
Быццам з-пад рукі, з-пад аблачыны
Матухна латвійская зямля
Ў гэты бок глядзіць азёр вачыма,

Дзе да сэрца блізка прыняла,
Як прымае родных сваіх, гэтак,
Маці беларуская зямля
Дарту маці генія-паэта

Яніса, што ўзяў яшчэ змалля
Дар ад маці шчырасці, сумлення...

Будзь ёй, беларуская зямля,
Мяккай,
чым латвійская -- не меней.

### НА АДКРЫЦЦІ НЯДЗЕЛЬНАЙ ШКОЛЫ Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ

Ўсміхаецца сёння
Святая нядзеля:
У горадзе гэтым
Такая падзея.

Ўсміхаюцца нашых
Асветнікаў душы,
Што Бог так усцешыў,
Іх просьбы пачуўшы,

Што і беларусы
Тут будуць як людзі,
Бо школа і ў нас,
Хоць нядзельная, будзе.

І зараз галоўнае
Жыць іх надзеяй,
Што стане асноўнаю
Школа нядзельная...

### КАХАНАЙ

Агортвае, натхняе нас любоў:
Як вершы, мы жыццё сваё складаем.
Як добра мы рыфмуемся з табой,
І нашы біярытмы супадаюць!

Калі сябе мы з тропу не саб'ем,
У абдымкі лета ўпасці маем шчасце:
Нібыта вершы пругкія, сябе
На музыку высокіх траў пакласці...

* * *

Каб не жылі, як свінні,
-- трэба,
Хоць нам няма калі ўсё,
-- трэба,
Падняўшы горда галаў,
трэба
Часцей, даўжэй глядзець у неба,

І ўдзень і ўночы,
Каб не збочыць,
Глядзець у неба --
Богу ў вочы...

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **"Голас Радзімы"**

| 63854 |
|---|
| (індэкс выдання) |

| Колькасць камплектаў | |
|---|---|

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

---

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету

| 63854 |
|---|
| (індэкс выдання) |

**"Голас Радзімы"**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"!

**Не адкладваючы справу на заўтра, запоўніце сёння, зараз жа, гэты квіток, і вы будзеце мець падпіску на "Голас Радзімы" на ўсю першую палову 1996 года.**

**Зрабіце гэта не толькі самі, але парайце таксама падпісацца на "Голас Радзімы" вашым сябрам, добрым знаёмым.**

**Усе звесткі пра газету -- у каталогу на пошце.**

*СПАДЧЫНА*

# ...І ДА ХЛЕБА

Не вельмі вялікую ўвагу звярталі этнографы колішнія і сучасныя пры вывучэнні побыта беларусаў на стравы, іх прыгатаванне і кампаненты, з якіх яны складаюцца. Канстатавалася толькі, што быў вялікі выбар харчавання -- збожжа, гародніна, малако, мяса, дзікарослыя расліны, ягады, грыбы. Больш падрабязнае апісанне давалася прыгатаванню хлеба ці адзначалася, што пачынаючы з XVIII стагоддзя ў харчаванні беларусаў вялікае месца займае бульба, якая стала штодзённай сялянскай ежай, ці "другім хлебам". А што ж ужывалі беларусы да хлеба?

Рэдкую страву гаспадыня варыла штодня, абавязкова на палудзень густую ці булён на вячэру.

Супы ці баршчы гатавалі вегетарыянскія, на булёнах мясных, а таксама на грыбных, гароднінных адварах, малацэ, квасе, з кіслага малака.

Вегетарыянскія баршчы варылі з капусты ці шчаўя, не дабаўляючы ні бульбы, ні круп, але клалі столькі зеляніны, што лыжка стаяла ў місцы. Больш за ўсё гаспадыні любілі, каб усё ж такі "засквaрыць" гэтую страву смажаным на патэльні салам ці ўкласці ў саган колькі лыжак тлушчу.

Распавядаюць, што прыгатаванай такім чынам "капустай" часта абварваліся дзеці, бо тоўсты пласт тлушчу не надта даваў астыць страве, а галодная дзятва не магла доўга стрымацца і хапала кіпень.

Яшчэ адна з распаўсюджаных нацыянальных страў -- знакаміты кулеш.

Класічнае прыгатаванне куляшу: пакласці мяса і каўбасы ў ваду, давесці да кіпення, і як толькі закіпіць, выняць мяса і каўбасу, а ў ваду ўсыпаць мукі і закалаціць калатовачкай ні густа, ні рэдка. У закалочаную ваду пакласці мяса і каўбасы і паставіць у жар у печ да абеда, потым дабавіць часнаку і кмену.

Падчас свежавання кабана ў закалочаную ваду разам з мясам і рэбрамі дабаўлялі кроў, але называлася гэтая страва поліўка.

Заскварaны кулеш гатаваўся ў асноўным на ўсходзе Беларусі. У кіпень або "рэдкія булёны" засыпалі муку і пакручвалі калатовачкай, пасля дабаўлялі падсмажанае сала з абавязковым наборам беларускіх спецый -- кроп, цыбуля, каляндра...

Ядуць кулеш, поліўку з бульбай, хлебам ці проста так.

На снеданне ці на вячэру нярэдка гатавалі зацірку. У муку дабаўлялі ваду і расціралі лыжкаю, атрымоўваліся невялікія кавалкі цеста, якія кідалі ў падсолены кіпень. Зацірку забельвалі малаком. Нават калі ў гаспадарцы і было малако, на ім нічога не варылі, усё гатавалі на вадзе. Зварыць нешта на малацэ лічылася праяваю марнатраўства.

Каму з нас невядомы старадаўні кісла-салодкі напой -- квас. Беларусы гатавалі квас як аснову да рэдкай стравы -- гэта і рыбны суп, грыбны з мучной падкалоткай ці звараны з рабрын. На паўночна-заходняй тэрыторыі квас рабілі са зваранай тоўчанай бульбы, якую замешвалі з жытняй мукой і ставілі ў сагане на суткі ў печ кіснуць, потым дабаўлялі сахарын, ваду і елі з хлебам ці бульбай, а называлася гэтая страва раўгеня.

Вясною з нарыхтаванага бярозавіка (бярозавы сок заквашаны) рабілі юшку прыкалочаную. Бярозавік залівалі ў саган, даводзілі да кіпення, прыкалочвалі пшанічнай ці жытняй мукой. Юшкай заядалі бліны-конікі. Такія бліны-конікі падчас вайны і пасля яе ў голад выкарыстоўвалі замест хлеба. Людзі збіралі на палях мёрзлую бульбу, мылі, лупілі. Таўклі яе мёрзлую ды сырую і тоўчаную кашу смажылі на патэльні, падмазанай "воскажанцем" -- воскам.

Штодня і нават на свята вясковая сям'я ела з агульнага посуду. Сяляне ведалі, што местачковыя або гарадскія елі кожны з асобнай талеркі, але тлумачылі гэта тым, што ў гарадскіх жанчын мала работы і ім няцяжка перамыць посуд. Аднак час, калі кожны лез у патэльню рукамі, каб памачыць у тук кавалак хлеба ці бульбіну, ужо мінуўся.

За ласунак у дзяцей была вішнёвая ці слівовая смала або павідла -- чырвоныя буракі сціралі на тарцы, гэта замест цукру, дабаўлялі чорную ягаду і варылі ў печы. Елі зноў жа з хлебам.

**Г.ЛАТОШ,**
**вучоны сакратар Белдзяржмузея народнай архітэктуры і побыту.**



Лістапад.

Фотаэцюд Віктара СТАВЕРА.

## ЭПОХА ЭЛІЗЫ АЖЭШКА

У Гродне прайшла навуковая канферэнцыя "Жыццё і эпоха Элізы Ажэшка", арганізаваная Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам, абласным фондам культуры, Саюзам палякаў на Беларусі і Генеральным консульствам Польшчы ў Гродне.

Удзельнічалі ў ёй навукоўцы з Беларусі, Расіі і Польшчы. Акрамя пасяджэнняў, адбыўся і шэраг іншых мерапрыемстваў -- ускладанне кветак да помніка Э.Ажэшка ў цэнтры Гродна, наведванне музея польскай пісьменніцы З.Налкоўскай, а таксама месцаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю славутай пісьменніцы і паэтэсы, напрыклад, вёскі Багатырэвічы, якая была апісана ў свой час Э.Ажэшка ў аповесці "Над Нёманам". Былі ўдзельнікі канферэнцыі і на набажэнстве ў касцёле Святога Крыжа, дзе ў свой час была павянчана Э.Ажэшка. Сама канферэнцыя праходзіла ў доме Э.Ажэшка насупраць будынка універсітэта, і яе ўдзельнікі прынялі зварот да ўлад, з тым каб у гэтым доме быў створаны музей паэтэсы.

## І ЗНОЎ "ЗАМЕЖЖА НАМ ДАПАМОЖА"?

Пачаліся падрыхтоўчыя работы па выратаванню вежаў замка ў Навагрудку -- помніка дойлідства XIII--XVI стагоддзяў. Аднаўленнем яго зоймецца беларуска-польскае СП "Рэнаватум" на чале з вядомым беларускім рэстаўратарам С.Друшчыцам.

Зараз праводзяцца даследаванні на Замкавай гары, вывучаецца стан старажытнага падмурка замка. Адначасова ідзе і ўдакладненне праекта рэстаўрацыі, які быў зроблены спецыялістамі з Польшчы.

Але вось праблема -- падрыхтоўчыя работы "праглынулі" ўжо усе 60 мільёнаў рублёў дзяржаўнага бюджэту, якія былі накіраваны на гэтую справу ў бягучым годзе (ці ж гэта грошы па сучасных мерках?). Хутчэй за ўсё ў наступным годзе дзяржава наогул фінансаваць рэстаўрацыю не будзе.

Уся надзея на магчымую фінансавую дапамогу з боку Польшчы. Але чаму, скажыце, суседняя краіна павінна фінансаваць рэстаўрацыю беларускага замка? Ці ж нам самім не сорамна?.. Дададзім толькі, што тая ж Польшча пасля заканчэння вайны ляжала ў руінах, але ў першую чаргу сродкі былі накіраваны на аднаўленне разбураных шматлікіх помнікаў дойлідства. Няўжо зараз Беларусь знаходзіцца ў горшых умовах, чым Польшча пасля вайны?

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77).
Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак.5600.
Падпісана да друку 6.11.1995 г.